МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№11 (151)
лістапад 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ФЕСТЫВАЛЬ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ПРАЙШОЎ У ВРОЦЛАВЕ

У перадкалядным Вроцлаве ўжо шосты раз прайшоў Фестываль незалежнай беларускай культуры, арганізацыю якога ўзяў на сябе фонд "За вашу і нашу Свабоду".

*Чытайце на стар. 3*

### ЛІТАРАТУРНАЯ СУСТРЭЧА НА ДЗЯДЫ Ў РЫЗЕ

На восеньскія Дзяды, 2 лістапада, сябры Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" запрасілі да сябе гасцей з Беларусі – Сяргея Панізніка і Алену Масла.

*Чытайце на стар. 4*

### МАЛАЯ РАДА "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ" САБРАЛАСЯ НА ВОСЕНЬСКАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

У Дзень беларускай вайсковай славы – 27 лістапада – Малая Рада Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" сабралася на планавае пасяджэнне.

*Чытайце на стар. 6*

### НОВАЯ КНІГА ПРА РАДУ БНР

Кніга "Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы" – гэта храналагічны і лагічны працяг папярэдняй кнігі "Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы", што пабачыла свет у серыі "Бібліятэка "Бацькаўшчыны" ў 2013 г.

*Чытайце на стар. 6*

ГОСЦІ НА СЯДЗІБЕ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

## ПАДЗЕЯ ЗА ПАДЗЕЯЙ: БЕЛАРУСКІ РУХ У МАЛДОВЕ

***Госця з Малдовы – Ганна Мазур наведала сядзібу Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" 31 кастрычніка. Яна – старшыня створанага сёлета Беларускага культурнага руху Малдовы (БКРМ). Спадарыня Ганна прыехала ў Беларусь разам са сваімі дзецьмі на юбілей да маці, а перад ад'ездам завітала, каб падзяліцца поспехамі і планамі арганізацыі.***



*Алена Макоўская, Ганна Мазур і Ніна Шыдлоўская*

Пра некаторыя падзеі ў жыцці БКРМ чытачы нашага сайта і бюлетэня "Беларусы ў свеце" ўжо ведаюць, бо Ганна Мазур стала дасылае інфармацыйныя матэрыялы і падтрымлівае сувязь. Ужо згадвалася, напрыклад, аб праекце "Дзверы да этнічных каранёў", аб удзеле ў Днях славянскай пісьмовасці ў Малдове і ў шэрагу тэлеперадач, на сайце паведамлялася пра афіцыйны візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Малдову ў верасні. "Да гэтага апошні раз ён тут быў у 1996 годзе, калі адкрывалася наша амбасада, – патлумачыла Ганна Мазур. – Як мне сказалі, колькі было афіцыйных візітаў, Аляксандр Рыгоравіч ніколі не сустракаўся з прадстаўнікамі дыяспары. А тут няхай хоць на тыя 5-10 хвілін, але ён пагутарыў з намі, даў нам магчымасць нешта выказаць, так што гэта была, можна сказаць, таксама гістарычная падзея. Сустракалі прэзідэнта хлебам-соллю, на ручніку, які вышывала яшчэ мая прабабуля. Я лічу, што калі дыяспары ў іншых краінах свету будуць мець магчымасць на такім узроўні адчуваць да сябе ўвагу, то гэта будзе дарагога варта".

За гэты час адбыліся і іншыя цікавыя, значныя і нават гістарычныя падзеі. Адна з іх – гэта форум нацыянальных меншасцяў Рэспублікі Малдова, які адбыўся ўпершыню за 20-гадовую гісторыю існавання незалежнай дзяржавы. Гэтае ўрачыстае мерапрыемства адбылося 18 верасня ў Палацы Рэспублікі ў Кішынёве пад патранатам старшыні малдоўскага парламента Ігара Кормана. Форум сабраў больш за 500 прадстаўнікоў розных этнасаў.

➲

# ПАДЗЕЯ ЗА ПАДЗЕЯЙ: БЕЛАРУСКІ РУХ У МАЛДОВЕ

Апрача іншага, на форуме абмяркоўвалі канцэпцыю законапраекта: "Стратэгія інтэграцыі нацыянальных меншасцяў Рэспублікі Малдова", над распрацоўкай якога цяпер працуюць Бюро міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова і прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў.

Прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў мелі магчымасць выступіць на гэтым форуме: разам з прэзідэнтам і прэм'ер-міністрам слова мелі прадстаўнікі арганізацый украінцаў, рускіх, гагаузаў і балгараў. Далі слова і старшыні Беларускага культурнага руху Ганне Мазур, якая выступіла ад імя беларусаў Малдовы. Уступ спадарыня Ганна зрабіла па-беларуску і па-румынску (асноўны тэкст быў на рускай мове). "Калі я сказала вітальнае слова па-беларуску, гэта выклікала шквал апладысментаў, – згадала яна. – Увогуле малдаване ва ўсім вельмі добра ставяцца да беларусаў". Прамову спадарыні Ганны можна пачытаць на сайце zbsb.org.

Выдатнай навіной для нас стала з'яўленне штомесячнай перадачы па-беларуску на рэспубліканскім радыё Малдовы. Распачаў яе Генадзь Зяньковіч, прафесійны журналіст і кіраўнік новага грамадскага аб'яднання – Таварыства дружбы і супрацоўніцтва "Беларусь – Малдова". У перадачах, якія атрымалі назву "Беларуская крыніца", распавядаецца пра жыццё беларускай дыяспары, а пачуць іх кожную першую сераду месяца можна не толькі ў Малдове, але і ў памежных рэгіёнах. У будучым мяркуецца змясціць гэтыя перадачы на сайце БКРМ, які ўжо распрацоўваецца. Ганна Мазур выказала спадзяванне, што інтэрнэт-старонка арганізацыі з'явіцца да канца года.

Сярод іншых планаў – пашырэнне праекта "Дзверы да этнічных каранёў". Калі будзе магчымасць, у наступным годзе плануецца ўключыць у яго больш значную колькасць дзетак.

Шматлікія планы звязаныя са стварэннем Беларускага культурнага цэнтра імя Янкі Купалы для ўсіх беларусаў Малдовы. Гэтае памяшканне выдзеліла для іх гаспадыня новага гандлёвага цэнтра "Керамін Гранд Кераміка" Ганна Бабіна. Яно месціцца ў цэнтры Кішынёва, у вялізным, сучасным і прыгожым будынку. Паводле словаў Ганны Мазур, сама Ганна Бабіна – малдаванка, але мае вялікую любоў да беларусаў і шчыра жадае дапамагчы. Пакуль яшчэ само памяшканне праходзіць завяршальныя стадыі рамонту, таму ўся беларуская дыяспара знаходзіцца ў прадчуванні адкрыцця абвешчанага Беларускага культурнага цэнтра імя Янкі Купалы. Таксама цяпер вырашаецца пытанне, хто будзе куратарам гэтага цэнтра.

Дагэтуль жа ўласных асобных памяшканняў у беларускай дыяспары няма: праца вядзецца або дома ў сябраў суполак, або ў памяшканнях, якія бясплатна выдзяляе пад канкрэтныя праекты Бюро міжнацыянальных адносін.

Увогуле ж жыццё беларусаў Малдовы віруе: яны ўвесь час удзельнічаюць у розных мерапрыемствах. Ладзіцца шмат семінараў, пасяджэнняў і канферэнцый на розныя тэмы – напрыклад, як захаваць сваю мову, культуру, ідэнтычнасць у іншай дзяржаве або якія могуць быць стратэгіі па інтэграцыі нацыянальных меншасцяў Еўропы.

Ганна Мазур называе беларусаў Малдовы сапраўднымі патрыётамі: "Я не ведаю, як беларусы працуюць у іншых краінах, але што датычыцца Малдовы, гэта патрыятызм у чыстым выглядзе. Бо ў нас няма грошай або нейкай падтрымкі, а ёсць проста шчырае жаданне рабіць нешта на карысць роднай зямлі. І тое, што робяць нашыя беларусы, нашыя 10 суполак, і як мы ўпэўнена і годна гучым у Малдове нават на ўзроўні з іншымі этнасамі, якія маюць рэальную і немалую грашовую падтрымку ад сваіх краін, наглядна дэманструе наш сапраўдны моцны патрыятызм. Нашыя беларускія карані, беларускае сэрца, наша зямля даюць нам гэты запал".

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*
*Артыкул падаецца ў скароце.*
*Цалкам – на zbsb.org.*

НАВІНЫ

# ВЫСТАВА ВЯЧАСЛАВА ІГНАЦЕНКІ "УСІМ, ХТО ЛЮБІЦЬ МАЛДОВУ І БЕЛАРУСЬ"



1 лістапада 2014 г. у Кішынёве адкрылася чарговая персанальная выстава ўраджэнца Беларусі, выпускніка Беларускай акадэміі мастацтваў, члена Саюза мастакоў Малдовы, намесніка старшыні Беларускай абшчыны Малдовы Вячаслава Ігнаценкі.

Выстава пад назвай "Усім, хто любіць Малдову і Беларусь" была арганізаваная Беларускай суполкай Малдовы і арт-салонам "Артсувенір" пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова.

На экспазіцыі прадстаўлены каля 100 работ вядомага ў Беларусі і Малдове мастака: пейзажы Кішынёва, Малдовы, Беларусі, эцюды і г.д. На адкрыцці выставы прысутнічалі часовы павераны ў справах Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова Андрэй Кароль, дэпутаты парламента Малдовы, творчая інтэлігенцыя, якія высока ацанілі талент Вячаслава Ігнаценкі. Экспазіцыю наведаў таксама кіраўнік Дэлегацыі Еўрапейскага саюза ў Малдове Пірка Тапіола з жонкай.

Нягледзячы на тое, што Вячаслаў Ігнаценка вялікую частку жыцця жыве і працуе ў Малдове, карані яго жывапіснага таленту ляжаць у беларускай мастацкай школе.

Вячаслаў Ігнаценка – сталы ўдзельнік мастацкіх выстаў у Малдове, Украіне, Беларусі, краінах далёкага замежжа. Работы мастака ёсць у музеях Беларусі, Малдовы, Украіны, а таксама ў прыватных зборах Малдовы і многіх замежных краін.

Варта адзначыць, што спадар Вячаслаў сёлета адзначае свой 60-гадовы юбілей. На яго рахунку каля 40 персанальных выстаў у розных гарадах: Мінску, Кішынёве, Ціраспалі, Бельцы, Камраце, Адэсе, Белгарадзе-Днястроўскім, Таронта.

Вячаслаў Ігнаценка таксама актыўны сябра Беларускай абшчыны Малдовы, узначальвае ў ёй творчы напрамак. Ён з задавальненнем перадае свой творчы досвед і майстэрства новаму пакаленню.

Вынікамі супрацоўніцтва з ім стала правядзенне сёлета некалькіх заняткаў нядзельнага класа ў Беларускай суполцы па тэматыцы выяўленчага мастацтва, а таксама цэлы шэраг выстаў і іншых творчых мерапрыемстваў.

*Паводле Юрыя Статкевіча*

## БЕЛАРУСЫ І ЧУВАШЫ ІРКУЦКА РАСКАЗАЛІ ПРА СВАЕ НАРОДНЫЯ СТРОІ

Беларусы і чувашы Іркуцка аб'ядналіся, каб распавесці жыхарам горада аб сваіх нацыянальных строях. Мерапрыемства адбылося 22 лістапада ў маёнтку Уладзіміра Сукачова, які шмат зрабіў для развіцця горада.

У нацыянальных строях беларусаў і чувашоў ёсць шмат агульнага: белачырвоная каляровая гама, доўгія спадніцы ў дзяўчат, наяўнасць галаўных убораў і паясоў, прысутнасць знакаў-абярэгаў. Аднак і адрозненняў многа. Чувашы ўпрыгожваюць свае галовы вельмі масіўна, некаторыя галаўныя ўборы падобныя на шаломы або цыліндры, пры гэтым яны багата дэкараваныя. Аказваецца, чувашскія жанчыны ваявалі нароўні з мужчынамі! Акрамя таго, у некаторых жанчын на спіне можна ўбачыць доўгую белую паласу, упрыгожаную арнаментам – гэта сурпан, яго носяць замужнія жанчыны. Галаўныя ўборы беларусаў зусім іншыя: яны не такія масіўныя і аздобленыя. Дзяўчаты носяць рознакаляровыя стужкі, жанчыны хаваюць валасы пад каптур, надзяваючы зверху хустку, а мужчыны – саламяныя капелюшы. Вядома, гэта не ўсе галаўныя ўборы, якія прысутнічаюць у беларускім нацыянальным строі, бо ўзімку ў стужачках або брылі не паходзіш. Сярод відавочных адрозненняў паміж строямі можна вылучыць таксама чырвоныя вертыкальныя палосы на строях чувашоў – абаронныя знакі – і клятчастыя спадніцы, якія можна сустрэць на беларусках; ды і ў цэлым крой крыху адрозніваецца.

Багата было расказана аб нацыянальных строях беларусаў і чувашоў, былі прадэманстраваныя прыклады касцюмаў – у тым ліку і сапраўдныя, якія былі пашытыя ў мінулым, а то і пазамінулым стагоддзі. Прадстаўнікі культур былі апранутыя ў свае нацыянальныя строі, часцей за ўсё зробленыя сваімі рукамі. Пасля лекцыйнай часткі ўсе разам праспявалі чувашскую песню, а потым патанчылі беларускія танцы і карагоды.

На мерапрыемстве было не вельмі шмат людзей, але я ўсё ж спадзяюся, што тое, пра што даведаліся прысутныя, разыдзецца далей, і іркуцяне больш не будуць блытаць такія розныя народы, як беларусы і чувашы. Шмат народаў жыве побач, і кожны, хто паважае сябе, павінен хоць трохі разбірацца ў іх і старацца быць дасведчаным.

*Паводле Наталлі Багамаз, Іркуцк*

## ФЕСТЫВАЛЬ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ПРАЙШОЎ У ВРОЦЛАВЕ

У перадкалядным Вроцлаве ўжо шосты раз прайшоў Фестываль незалежнай беларускай культуры, арганізацыю якога ўзяў на сябе фонд “За вашу і нашу Свабоду”.

Гонар адкрываць фестываль быў аддадзены Андрусю Такіндангу, у Польшчы найбольш вядомаму як саліст гурта “RECHA”. Аднак 20 лістапада жыхарам Вроцлава выпала магчымасць пазнаёміцца і з мастацкай творчасцю Андруся: упершыню ў Польшчы быў прадстаўлены цыкл яго малюнкаў з праекту “Магічная мапа”, які летась распачала кампанія “Будзьма беларусамі!”. У межах праекту мастак раскрывае душу гарадоў і мястэчак Беларусі.

У пятніцу, 21 лістапада, адбыліся дэбаты “Досвед мінулага — лекцыя для сучаснасці?” з удзелам Аляксандра Мілінкевіча, Іны Кулей і Максіма Жбанкова, а таксама Яцка Пратасевіча і Лідыі Герынгер дэ Удэнберг. Эксперты дыскутавалі на тэму свабоды, патэнцыялу сучаснай беларускай моладзі, пераймання досведу маладым пакаленнем, стану беларускай культуры і інш. Адной з найцікавейшых тэмаў дэбатаў было пастаўленае Максімам Жбанковым пытанне рубам: культура палітыкі ці ўсё ж палітыка культуры?

Адразу пасля дыскусіі адбылося адкрыццё фотавыставы Андрэя Дубініна “Лісты: мужнасць і боль”. Ідэя праекта — у адлюстраванні сацыяльнага боку палітычных рэпрэсій.

На наступны дзень наведнікаў фестывалю чакаў вечар сучаснай беларускай паэзіі, на якім свае вершы чыталі Андрэй Хадановіч, Таццяна Нядбай і Уладзімір Арлоў, а пераклады на польскую мову агучваў Лявон Баршчэўскі.

Адразу пасля быў запланаваны прагляд дакументальнага спектакля “Чарнобыль” тэатра “Крылы Халопа”. “Чарнобыль” — гэта адлюстраванне балючых успамінаў сведак беларускай трагедыі 1986 года.

У фінальны дзень фестывалю адбыўся выступ гурта “RECHA”. Творчасць беларускіх музыкаў прыйшлася даспадобы не толькі беларусам, якія жывуць у Вроцлаве, але і палякам і ўкраінцам, якія наведалі мерапрыемства.

*Паводле Юлі Курловіч*

## СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ЛЯЛЬКІ Ў ТОМСКУ



16 лістапада ў Беларусі адзначаецца Дзень беларускай лялькі. У гэты дзень у дзіцяча-юнацкай бібліятэцы творчая група нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў у Томскай вобласці правяла мерапрыемства пад назвай “У гасцях у беларускай лялькі”, якое ўключыла ў сябе невялікую выставу саламяных, ільняных лялек і лялек з тканіны, прэзентацыю “Беларуская лялька” – сюжэтную, з песнямі і гульнёй, – і майстар-клас па вырабе беларускай лялькі-абярэга.

Народная лялька – гэта частка культуры народа. І нам вельмі хацелася перадаць яе характар і аблічча. Паказаць нацыянальныя рысы, якія заўсёды адзначаны традыцыяй. На працягу некалькіх гадзін дзеці з бацькамі зачаравана слухалі цудоўны аповед аб гісторыі беларускай лялькі, аб прызначэнні абярэгавых лялек, змаглі патрымаць іх у руках. А майстар-клас па вырабе лялькі Спірыдона-сонцаварота наогул прайшоў як адно імгненне.

Вяла майстар-клас таленавіты майстар Любоў Пушкарова. А лялька адправілася ў кожны дом, каб стаць добрым дапаможнікам у справах, а таксама і ў бібліятэчны музей нацыянальнай лялькі.

Трэба адзначыць, што ўсе мерапрыемствы аўтаноміі маюць адукацыйна-пазнавальны характар. І гэтым разам адна са старэйшых членаў аўтаноміі журналіст Людміла Аляксееўна Сярдзюк збірала матэрыялы, карысталася навуковай літаратурай, была вядучай свята. Дапамагалі ёй нашы цудоўныя дзяўчаты з вядомага ўжо ў Томскай вобласці і іншых мясцінах ансамбля “Медуніца” разам з іх мастацкім кіраўніком Аленай Капыловай. Алена, трымаючы ў руках лялькy Куватку, шчыра і прыгожа праспявала дзіцячую калыханку.

На гэтым тыдні наша беларуская лялька адправіцца па навучальных установах і будзе зноў і зноў распавядаць аб нашай роднай беларускай краіне.

*Паводле Любові Адаскевіч*

# ЛІТАРАТУРНАЯ СУСТРЭЧА НА ДЗЯДЫ Ў РЫЗЕ

На восеньскія Дзяды, 2 лістапада, сябры Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" запрасілі да сябе гасцей з Беларусі – Сяргея Панізніка і Алену Масла, якія падчас літаратурнай сустрэчы з латвійскімі беларусамі прадставілі дзве кнігі. Першая – гэта энцыклапедычны даведнік "Сузор'е беларускага памежжа", выдадзены сёлета ў Мінску. У ёй – больш за 1650 прозвішчаў беларусаў, сярод якіх ёсць і сябры Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак", і Аб'яднання беларусаў-мастакоў Балтыі "Маю гонар", і іншых беларускіх дзеячаў Латвіі. Нямала каго з гэтых асоб ужо няма сярод нас, як, напрыклад, Пятра Масальскага, чыё імя таксама ўвайшло ў даведнік. Кніга латышскіх народных казак у яго перакладах, якая атрымала назву "Добрыя лекі", выйшла летась у выдавецтве "Мастацкая літаратура", і яе таксама прадставілі "сьвітанкаўцам" і вучням беларускай школы ў Рызе.

Пачалася сустрэча з малітвы за беларускі народ "Магутны божа". Затым у памяць аб продках запалілі свечкі.

Сяргей Панізнік разам з мастаком Вячкам Целешам распавялі пра кнігу "Сузор'е беларускага памежжа". Абодва зрабілі немалы ўнёсак у працу над ёй, падрыхтаваўшы звесткі пра некаторых латвійскіх беларусаў. Рэдактар гэтага даведніка – вядомы беларускі публіцыст, прафесар Адам Мальдзіс.

Некаторыя з асоб, згаданых у гэтай кнізе, таксама завіталі на сустрэчу – напрыклад, 88-гадовая Наталля Цімаховіч, доктар фізіка-матэматычных навук, перакладчыца. Яна ніколі на гістарычнай радзіме не была, але выдатна гаворыць па-беларуску.



*Алена Масла і Сяргей Панізнік*

Гучалі падчас сустрэчы імёны многіх выбітных беларускіх дзеячаў Латвіі, якіх ужо няма сярод жывых. А Пятру Масальскаму, які як паэт вядомы таксама пад псеўданімам Пятро Сакол, і ўвогуле была прысвечаная ўся другая частка праграмы. У наступным годзе споўніцца 110 гадоў з дня яго нараджэння. А летась у серыі "Казачны свет" выйшла кніга латышскіх народных казак у яго перакладзе з арыгіналу, аздобленая выдатнымі ілюстрацыямі Марыі Каратаевай.

На вечарыне выступіла і нявестка Пятра Масальскага, спадарыня Галіна Масальская. Яна расказала, як шмат, нягледзячы на цяжкі стан здароўя, працаваў яе свёкар – нярэдка да позняй ночы. Галіна Інакенцьеўна атрымала ад выдавецтва "Мастацкая літаратура" некалькі асобнікаў кнігі "Добрыя лекі" і падаравала гэтыя кнігі Рыжскай Беларускай асноўнай школе імя Янкі Купалы.

У гэтай школе госці з Беларусі таксама выступілі перад дзецьмі. Рэдактар гэтай кнігі, пісьменніца Алена Масла, нагадала, што гэта першая дзіцячая латышская кніга, якая была выдадзена ў Беларусі за апошнія 20 гадоў. Цяпер і беларускія дзеткі ў Рызе змогуць пачытаць народныя казкі краіны, дзе жывуць, на матчынай мове.

Таксама спадарыня Алена перадала кніжныя падарункі для Рыжскай Беларускай асноўнай школы імя Янкі Купалы, для бібліятэкі таварыства "Сьвітанак", а таксама для Цэнтра дзіцячай літаратуры пры Латвійскай нацыянальнай бібліятэцы.

Сустрэча з беларускімі пісьменнікамі на Дзяды ў Рызе стала магчымай дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры Латвіі і візавай падтрымцы Беларускага інфармацыйнага цэнтра. Таварыства "Сьвітанак" выказвае таксама падзяку за ўдзел у сустрэчы прадстаўнікам Амбасады РБ у Латвіі – Саветніку-пасланніку Амбасады Яраславу Міцкевічу і Першаму сакратару Аляксандру Сушкевічу.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*
*Артыкул падаецца ў скароце.*
*Цалкам – на zbsb.org.*

# БЕЛАРУСЫ МАЛДОВЫ ПРАВЯЛІ АБРАД ДЗЯДЫ

10 лістапада ў Кішынёве ў Доме нацыянальнасцяў Беларуская абшчына Малдовы правяла старажытны беларускі абрад Дзяды. Настаяцель Свята-Георгіеўскай царквы айцец Мікалай Фларынскі правёў памінальнае набажэнства. Сябры абшчыны ўшанавалі памяць памерлых раней старшыняў суполкі, а таксама яе членаў, ветэранаў, грамадскіх дзеячаў. Яны з сумам канстатавалі, што лік ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны за апошнія гады істотна скараціўся – з 25 чалавек у 2010 годзе да 4-х чалавек на сёння.

Удзельнікі мерапрыемства паглядзелі фільм аб дзейнасці Беларускай абшчыны Малдовы, успомніўшы яшчэ раз тых, хто пакінуў гэты свет. Таксама гучалі вершы, прысвечаныя спачылым.

Мерапрыемства адбылося пры падтрымцы Пасольства Беларусі ў Малдове і Бюро міжэтнічных адносін Малдовы.

*Паводле Юрыя Статкевіча*

# НА ДЗЯДЫ У ПРАЗЕ МАЛІЛІСЯ ЗА ПРЭЗІДЭНТАЎ БНР



На Дзяды у Празе маліліся за прэзідэнтаў БНР Пётру Крэчэўскага і Васіля Захарку, ушанавалі памяць спевака Міхася Забэйды-Суміцкага.

Ад імя беларускай грамады свечкі былі запаленыя і ў гонар вялікага сябра беларускай дэмакратыі, былога прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гаўла.

*"Радыё Свабода"*

АБВЕСТКА

# ДВА АРТЫКУЛЫ АЛЕГА РУДАКОВА

Чытайце на zbsb.org артыкул Алега Рудакова "Беларусы Прыбайкалля: этнакультурнае развіццё ўдалечыні ад гістарычнай радзімы":

Якія былі асноўныя хвалі перасялення беларусаў у Сібір?
Як беларусы Прыбайкалля захоўвалі традыцыі і з якімі цяжкасцямі сутыкаліся?
Як адбываецца адраджэнне беларускіх традыцый у Сібіры сёння?

А ў артыкуле "Сімвалы Беларусі" Алег Рудакоў расказвае пра нашыя нацыянальныя сімвалы і пра прысутнасць – ці адсутнасць! – іх у Сібіры.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ВІЗІТ ПРАФЕСАРА Х. БЕН-ЯМІ Ў МІНСК

27 кастрычніка ў адной з будапешцкіх кавярняў адбылася размова з прафесарам, загадчыкам аддзялення філасофіі Цэнтральнаеўрапейскага ўніверсітэта (ЦЕУ) Ханохам Бен-Ямі, якая падвяла вынікі яго кастрычніцкага візіту ў Мінск.

Калі прадстаўнікі беларускай суполкі, былыя вучні прапанавалі прафесару наведаць Беларусь з лекцыямі, высветлілася, што пабываць у гэтай краіне – яго даўняя мара. Прабацькі і матуля выкладчыка доўгі час да вайны жылі ў мястэчку Вілейка. У выніку намаганнямі многіх адбылася доўгачаканая падзея: у БДУ прафесар прачытаў лекцыю на тэму “Тэхналогія і сучасны чалавек. Дэкарт пра бяздушныя аўтаматы…”, якая выклікала інтарэс у больш чым 100 студэнтаў.

А ўвечары ў памяшканні, добразычліва прадстаўленым Яўрэйскай культурнай суполкай “Эмуна”, адбылася другая лекцыя з загадкавай для Беларусі назвай “Філасофія ЦЕУ. Філасофія Ізраіля”, якая выклікала жывую дыскусію.

Акрамя таго, прафесар пазнаёміўся з Мінскам і пабываў у Вілейцы, на месцы былой сялібы продкаў.

Прафесар адзначыў, што паездка была вельмі насычанай і цікавай, як з прафесійнага, так і з асабістага пункту гледжання і пры магчымасці ён з задавальненнем наведаў бы наш край не раз. Адбылося першае знаёмства і закладзены пэўны фундамент партнёрскіх узаемаадносінаў паміж ЦЕУ, БДУ, “Беларускай філасофскай прасторай”. У планах Беларускай суполкі ў Венгрыі і “Беларускай філасофскай прасторы” арганізацыя цэлай серыі лекцыяў Бен-Ямі і іншых прафесараў ЦЕУ ў Мінску.

*Паводле Веранікі Бурсевіч*

# ФРАНЦЫСКА СКАРЫНУ ПРАПАНУЮЦЬ КАНАНІЗАВАЦЬ

Утвораны міжнародны грамадскі аргкамітэт па кананізацыі Францыска Скарыны. Пра гэта паведаміў прафесар Адам Мальдзіс 2 лістапада на з'ездзе Таварыства беларускай мовы, якое носіць імя ўсходнеславянскага першадрукара.

Час для поспеху такой ініцыятывы надзвычай спрыяльны. Праз тры гады Беларусь будзе святкаваць 500-годдзе сваёй першай друкаванай кнігі, якую выдаў у Празе Францыск Скарына. Той кнігай быў перакладзены ім на беларускую мову “Псалтыр”. Потым ён выдаў яшчэ 22 перакладзеныя кнігі Святога Пісьма.

*Паводле “Радыё Свабода”*

# ІВОНКА СУРВІЛЛА: ПАМЯТАЙМА ЎСІХ НАШЫХ ПРОДКАЎ, ЯКІЯ БАРАНІЛІ НАШ КРАЙ

З нагоды чарговых угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла звярнулася да беларусаў з традыцыйным віншавальным зваротам.

“Паважаныя Суродзічы, Дарагія Сябры!

“Няхай памяць натхняе нас...”

Словы гэтыя прамовіў на святкаванні канадскага Дня Герояў — 11 лістапада — прадстаўнік Каралевы ў Канадзе Дэвід Лойд Джонсан.

З нагоды нашага Дня Герояў, у гэтыя 94-я ўгодкі першага дня Слуцкага Збройнага Чыну, віншую ўсіх вас з нашым вялікім нацыянальным святам і жадаю, каб памяць пра нашых герояў дала нам сілу давесці да перамогі пачатае імі змаганне за волю свае зямлі.

Случакам не было патрэбы задумвацца, ад каго бараніць сваю незалежную дзяржаву. Да сямідзесяцігадовага прамывання мазгоў нашага паняволенага народу ўсім было ясна, адкуль ішла пагроза.

Дарагія сябры, памятайма Случакоў. Памятайма з удзячнасцю ўсіх нашых продкаў, якія на працягу нашае гісторыі баранілі наш край. Дзякуючы іхняй мужнасці мы яшчэ жывем і ведаем, хто мы.

Жыве Беларусь!

Івонка Сурвілла,
Старшыня Рады
Беларускай Народнай Рэспублікі.
Лістапад 2014”.

*“Радыё Свабода”*

IN MEMORIAM

# ПАМЁР ДЗЕЯЧ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ МІХАСЬ БЕЛЯМУК



У амерыканскім Кліўлендзе 31 кастрычніка памёр беларускі дзеяч Міхась Белямук. Ён пражыў 90 гадоў.

Міхась Белямук нарадзіўся 15 сакавіка 1924 г. у в. Голя (сёння гэта Камянецкі раён Брэсцкай вобласці). Ад лета 1944 г. — на эміграцыі.

Некаторы час жыў у беларускіх лагерах для перамешчаных асоб у Германіі, у 1949 г. эміграваў у ЗША. Вучыўся на гістарычным факультэце ўніверсітэта ў Каламбусе (Агаё).

Стаў адным з арганізатараў беларускага жыцця ў Кліўлендзе, стваральнікаў мясцовага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання. Ад 1954 быў старшынёй Згуртавання беларускай моладзі ў Кліўлендзе.

З 1991 г. — ініцыятар і выдавец гістарычнага часопіса “Полацак”. Аўтар шэрагу публікацый, у тым ліку на гістарычныя тэмы. З 1993 г. — ганаровы сябра Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Выдаў успаміны (“Свайго лёсу не мінеш”, Вільня, 2006).

*“Наша Ніва”*

**Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” смуткуе з нагоды смерці спадара Міхася і выказвае глыбокія спачуванні ўсім яго родным, сябрам і паплечнікам.**

# САКРАТ ЯНОВІЧ: ПАЗАМЕЖНЫ ПІСЬМЕННІК У МІЖКУЛЬТУРНАЙ ПРАСТОРЫ

20 лістапада на філалагічным факультэце Універсітэта ў Беластоку адбыўся сімпозіум, прысвечаны творчасці і асобе памерлага летась у лютым беларуска-польскага пісьменніка Сакрата Яновіча (1936–2013).

Польская назва беластоцкай акадэмічнай сустрэчы з'яўляецца выклікам для беларускага перакладчыка: Sympozjum międzykulturowe ”Sokrat Janowicz. Pisarz transgraniczny”.

Сімпозіум арганізавалі Інстытут польскай філалогіі, Кафедра беларускай культуры і Група рэгіянальных даследаванняў, якія дзейнічаюць на філалагічным факультэце Універсітэта ў Беластоку.

Сімпозіум быў падзелены на тры часткі. У першай выступалі даследчыкі са сваёй інтэрпрэтацыяй прозы і эсэістыкі Сакрата Яновіча; у другой закраналіся пытанні перакладаў пісьменніка на польскую і ангельскую мовы ды ўспрыманне ягонай творчасці за мяжою; трэцяя частка прысвячалася дыскусіі вакол ідэяў Сакрата Яновіча і ягонага ўплыву на беларускае асяроддзе ў Польшчы.

Пад канец гэтага года ў Беластоку запланавана выданне польскамоўнай кнігі, прысвечанай творчасці Сакрата Яновіча. Адным з тэкстаў, апублікаваных у гэтай кнізе, будзе пераклад літаратурна-крытычнага эсэ Яна Максімюка “Сакрат Яновіч і загоны памяці”.

*Паводле “Радыё Свабода”*

# МАЛАЯ РАДА "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ" САБРАЛАСЯ НА ВОСЕНЬСКАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

У Дзень беларускай вайсковай славы – 27 лістапада – Малая Рада Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" сабралася на планавае пасяджэнне. У якасці падарунка ўсе сябры Рады атрымалі каляндар "Не маўчы па-беларуску", які зроблены "Бацькаўшчынай" у межах кампаніі "Будзьма беларусамі!". Дарэчы, такі ж каляндар атрымаюць і ўсе сябры Вялікай Рады і ганаровыя сябры Згуртавання.

На пасяджэнні кіраўнік "Бацькаўшчыны" Алена Макоўская і старшыня Рады Ніна Шыдлоўская далі справаздачу пра дзейнасць Згуртавання за год, якая адбывалася ў двух кірунках – супраца з беларусамі замежжа, а таксама каардынацыя і дзейнасць у межах культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!". Акрамя гэтага, на сходзе разглядалася пытанне аб правядзенні Вялікай Рады. У адпаведнасці з прынятым рашэннем сябры Вялікай Рады "Бацькаўшчыны" да 15 снежня атрымаюць формы для галасавання і гадавую справаздачу "Бацькаўшчыны".

Падчас пасяджэння былі абмеркаваныя найбольш актуальныя пытанні дзейнасці Згуртавання, асаблівая ўвага надавалася прынятаму закону "Аб беларусах замежжа", які носіць збольшага дэкларатыўны характар. Сябры Рады падтрымалі ініцыятыву, выказаную кіраўніцтвам Згуртавання, па фармаванні прапановаў па ўдасканаленні дзяржаўнай палітыкі ў галіне адносін з беларусамі замежжа. І гэтае ж пытанне было вынесена на галасаванне Вялікай Рады, каб максімальна ўлічыць меркаванне і інтарэсы беларусаў замежжа. Таксама з гэтай мэтай апарат "Бацькаўшчыны" найбліжэйшым часам будзе рабіць маніторынг патрэбаў беларускай дыяспары, пытанні для якога былі распрацаваныя экспертам-юрыстам.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# У МІНСКУ АБМЕРКАВАЛІ ЖАНОЧУЮ АКТЫЎНАСЦЬ

23 кастрычніка ў Мінску прайшло ток-шоу дыскусія "Жаночая актыўнасць: як не пераБОРШЧыць?", арганізаваная кампаніяй "Будзьма беларусамі!". Тэма жаночай актыўнасці ў беларускім грамадстве застаецца традыцыйна вострай, таму падчас дыскусіі абмяркоўвалася, ці мае беларуска магчымасць рэалізаваць сябе напоўніцу, ці не выкліча яе актыўнасць асуджэння.

Мадэравалі сустрэчу Уладзімір Корж, кіраўнік міжнароднага асветніцкага грамадскага аб'яднання "АКТ", і Святлана Зінкевіч, дырэктар "Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацыі. Напачатку яны прапанавалі ўдзельнікам абмеркаваць відэасюжэт, створаны ў межах праекта "Будзьма беларусКамі!", — пра жанчын, якія абіраюць актыўнае сацыяльнае жыццё.

Ірына Саламаціна, кіраўніца лабараторыі гендарных даследаванняў ECLAB, заўважыла, што ў сюжэце паказаныя жанчыны, якія хутчэй займаюцца сваім хобі, а не працай, якая аплачваецца, а ў апошнім выпадку пытанняў узнікае шмат. Напрыклад, нягледзячы на тое, што ў Беларусі з 1993 года ёсць дзяржаўная праграма па дасягненні гендарнай роўнасці, жанчыны стабільна зарабляюць на 25-35 працэнтаў меней на тых самых пасадах, што і мужчыны.

Бізнес-трэнер Ніна Меграбян заўважыла: "Жанчыны ў нашай сферы лічаць, што трэба спачатку вывучыцца, а мужчыны спачатку будуць рабіць, а пасля ўжо будзе бачна." А Усевалад звярнуў увагу на супярэчлівае стаўленне да фемінізму і грамадства саміх феміністак: "На захадзе феміністкі змагаюцца супраць жанчынаненавіснікаў, а нас жа — супраць мужчын!"

Да дыскусіі далучаліся і гледачы з залы. Кацярына Корзун агучыла сваё стаўленне да пытання ў тэме дыскусіі: "Калі асноўная праблема зводзіцца да дадатковай актыўнасці, то ў беларускіх умовах лепей "пераборшчыць", чым "недаборшчыць". Нашыя жанчыны сапраўды больш грамадска актыўныя і адказней ставяцца да самаразвіцця. Я ў ЗША сустрэла сваіх сяброў, якіх не бачыла па 10-15 гадоў, і за гэты час дзяўчаты зрабілі паспяховыя кар'еры, а мужчыны спрабавалі заняцца рознай дзейнасцю, але не змаглі выйсці на належны ўзровень".

Тэма не пакінула абыякавым нікога: рэфлексіі, высновы, прыклады так і сыпаліся. І эксперты прыйшлі да высновы: на першае месца варта ставіць чалавечую індывідуальнасць, права і гатоўнасць выбіраць, і нельга ні ў якім разе падтрымліваць "полавую варожасць". Трэба разглядаць не праблемы стасункаў, а магчымасць узаемадзеяння.

*Больш падрабязны рэпартаж*
*Юрася Ускова чытайце на budzma.by*

# "КНІГАНОША" ПА-АНГЛІЙСКУ

Ужо трэці год Саюз беларускіх пісьменнікаў супольна са Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" выпускаюць інфармацыйнае выданне "Кніганоша" на англійскай мове. Гэты каталог, у якім сабраныя звесткі пра кніжныя навінкі беларускага друку за год, рассылаецца ў замежныя бібліятэкі і культурныя ўстановы.

Каталог створаны на падставе аднайменнага беларускамоўнага бюлетэня, які выходзіць кожныя два месяцы і дасылаецца беларускім суполкам у замежжы, беларускім выдаўцам ды іншым падпісчыкам. Ахвочыя могуць падпісацца на бюлетэнь "Кніганоша" праз сайт zbsb.org або напісаўшы на скрынку zbsb@tut.by.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# НОВАЯ КНІГА ПРА РАДУ БНР

Кніга "Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы" – гэта храналагічны і лагічны працяг папярэдняй кнігі "Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы", што была выдадзеная летась. Абедзьве яны з'яўляюцца сумеснай працай Наталлі Гардзіенка і Лявона Юрэвіча і выйшлі ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны", заснаванай Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў 2004 годзе.

Пра выданне расказала спадарыня Наталля: "Новая кніга прысвечаная перыяду дзейнасці на пасадзе Старшыні Рады БНР канадскага беларуса Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Структура новага выдання падобная да папярэдняга: ёсць гістарычны нарыс, дзе разглядаюцца асноўныя напрамкі дзейнасці Рады БНР у згаданы час, далей ідзе публікацыя пратаколаў пасяджэнняў Прэзідыуму ды Сесіяў Рады БНР, а таксама дакументаў і ліставання дзеячаў. Ёсць бібліяграфія ды хроніка дзейнасці Рады БНР.

Прадстаўлены ў нашай новай кнізе перыяд цікавы як адметнымі знешнімі ўмовамі функцыянавання Рады БНР (актывізацыя беларускага грамадска-культурнага жыцця на Захадзе ды перыяд "разрадкі" ў міжнародных дачыненнях), так і ўнутранымі зменамі, што адбываліся ў самой Радзе БНР".

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## НА ПЕРШУЮ СУСТРЭЧУ КЛУБА ”МОВА TUT“ ПРЫЙШЛО КАЛЯ СОТНІ ЧАЛАВЕК

12 лістапада ў сталічным офісе партала Tut.by распачаў сезон беларускамоўны праект "Мова Tut". Арганізатары пазіцыянуюць ініцыятыву не як моўныя курсы, а хутчэй як адмысловы клуб.

Першая частка сустрэчы – гэта ўрок, які вядуць выкладчыкі філалагічнага факультэта БДУ. Другая – размова з мастаком, культуразнаўцам альбо гісторыкам. Арганізатары плануюць, што ўсе сустрэчы будуць тэматычна завязаныя на карцінах.

Яшчэ адна асаблівасць праекта: арганізатары прапануюць браць з сабой дзетак, яны будуць глядзець мульцікі ў перакладзе на беларускую мову ў асобным пакоі.

Першым госцем праекта стаў паэт і мастак Адам Глобус са сваёй выставай "Мінск-Вільня". "Аб'ядноўвае не мова, а размова!" – паэтычна сфармуляваў Адам Глобус.

Праходзіць сустрэчы на праспекце Дзяржынскага, 57, будуць раз на два тыдні, абвесткі будуць з'яўляцца на інфармацыйным партале Tut.by, а таксама ў сацыяльных сетках.

*Паводле Настассі Храловіч, "Наша Ніва"*

## ВІНШУЕМ АЛЕГА ТРУСАВА З ПЕРААБРАННЕМ НА ПАСАДУ СТАРШЫНІ ТБМ!



2 лістапада ў Мінску адбыўся з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. На з'ездзе старшынёй ТБМ быў пераабраны Алег Трусаў. Упершыню ён ачоліў арганізацыю ў 1990 годзе, калі тая была ў крызісе. На сёння арганізацыя налічвае каля 6000 сябраў.

Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуе спадара Алега Трусава з пераабраннем і зычыць яму моцы і плёну ў працы, сяброўскай падтрымкі, пераадолення ўсіх нягодаў, а таксама захавання аптымізму!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## КУРСЫ "МОВА НАНОВА" АТРЫМАЛІ ДЗЯРЖАЎНУЮ РЭГІСТРАЦЫЮ

Сацыяльна-культурная ўстанова развіцця беларускай мовы і культуры ”Мова Нанова“ весці грашова-камерцыйную дзейнасць не будзе. Аднак цяпер ахвяраваць на яе карысць зможа любы ахвотны.

Паводле статуту, заснавальнікамі ўстановы ”Мова Нанова“ сталі мінскія выкладчыкі курсаў Глеб Лабадзенка і Алеся Літвіноўская. Рэгіянальныя выкладчыкі будуць аформленыя як сябры ўстановы.

Як паведаміў Глеб Лабадзенка, афіцыйная рэгістрацыя стала неабходнай, бо чыноўнікі адмаўляюцца даваць памяшканні для курсаў "групе неабыякавых людзей".

Цяпер ”Мова Нанова“ зможа выйсці па-за межы ”Галерэі Ў“ і ладзіць імпрэзы на іншых пляцоўках.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## У КАНАДЗЕ ПЕРАВЫДАЛІ ТВОРЫ ПІСЬМЕННІКА З ПІНШЧЫНЫ

У Канадзе на англійскай мове перавыдадзеныя творы пісьменніка з Піншчыны Фёдара Одрача (1912–1964). Выхадзец з палескага сяла Мясяцічы скончыў Віленскі ўніверсітэт, працаваў настаўнікам у палескіх школах, а ў часы Другой сусветнай вайны рэдагаваў "Ковельскую газету". З сярэдзіны 1940-х гадоў жыў у Канадзе, дзе напісаў творы пра Палессе, Вільню ды жыццё ў Заходняй Беларусі.

Яго аповесці будуюцца па рэальных фактах. Асобную цікавасць выклікае беларускае жыццё ў даваеннай Вільні ды лад палешукоў на момант верасня 1939 года. Фёдар Одрач яскрава апісаў падрыхтоўку да Народнага Сходу ў Беластоку, які ўключыў Заходнюю Беларусь у БССР.

Сваячка пісьменніка Марыя Шаламіцкая адзначыла, што ён быў апантаны палескімі краявідамі і ягоны псеўданім звязаны з родным краем: "Одрач – гэта месца ад вёскі Полхава да ракі. Одрач – значыць ад ракі. Ён увекавечыў памяць пра нашае Палессе. Гэта і разлівы, і нашыя балоты і рэкі, прыгажосць нашых людзей, іх своеасаблівасць. Некаторыя месцы ў ягоных творах я не магу чытаць без слёз".

На Піншчыне аніяк не ўшанавана памяць пра земляка. Затое ва ўкраінскім горадзе Ковель створаны сквер Фёдара Одрача, а ў Канадзе другі раз перавыдаюць ягоныя творы.

*Пятро Савіч, "Беларускае Радыё Рацыя"*

## У КІЕВЕ АДКРЫЛІ МЕМАРЫЯЛ БЕЛАРУСУ МІХАІЛУ ЖЫЗНЕЎСКАМУ




Мемарыял Герою Нябеснай сотні з'явіўся на вуліцы Грушэўскага, дзе быў забіты беларус. На адкрыццё з Беларусі прыехалі бацькі загінулага і мясцовыя актывісты. Яны ўсклалі кветкі і правялі паніхіду.

Міхаіл Жызнеўскі адным з першых загінуў падчас Майдану. Яго застрэлілі 22 студзеня ў час акцый пратэсту на вуліцы Грушэўскага.

*Паводле www.5.ua*

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ ВЫБРАНЫХ ЭСЭ ГАЎЛА "ЖЫЦЦЁ Ў ПРАЎДЗЕ"

15-га лістапада ў "Беларускай клубоўні" ў Празе адбылася прэзентацыя кнігі выбраных эсэ Вацлава Гаўла ў перакладзе на беларускую мову "Жыццё ў праўдзе", якая выйшла ў выдавецтве "Логвінаў". Былі прадстаўленыя і іншыя кнігі з серыі "Чэшская калекцыя".

Стваральнік і кіраўнік серыі Сяргей Сматрычэнка, перакладчыкі Вераніка Бялькові і Макс Шчур распавялі, як узнікла серыя і як вялася праца над беларускімі перакладамі твораў Гаўла, Доўскавай, Вівэга, Бонды, Андранікавай.

Кніга эсэ Вацлава Гаўла — гэта апошняе выданне з серыі. У яго ўвайшлі розныя эсэ часоў дысідэнцтва, творы часоў прэзідэнцтва, калі Вацлаў Гавэл перайшоў да жанру прамовы.

Перакладчыкі паразважалі пра сітуацыю з перакладамі ў Беларусі.

Макс Шчур адзначыў, што выхад якога-небудзь перакладу ў Беларусі — гэта сапраўды падзея. Калі ў Чэхіі штогод выдаецца па 100–200 перакладаў, то ў нас перакладчыкі мастацкай літаратуры на беларускую на вагу золата, гэта унікумы, героі.

Паводле Веранікі Бялькові, сітуацыя на беларускім кніжным рынку такая, што з'яўленне гэтай серыі — вялікая ўдача: "Я веру, што шмат якія перакладчыкі гатовыя друкавацца задарма, але бракуе нават сродкаў на само выданне".

*Паводле "Радыё Свабода"*

## УНІКАЛЬНЫ КАЛЯНДАР НА 2015 ГОД АД КАМПАНІІ “БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!”




грамадская культурніцкая кампанія www.budzma.by

НЕ МАЎЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

СТУДЗЕНЬ
Галоднаму – ежы, халоднаму – цяпла, а сытаму – музыкі
2015

чацвер 1

Навагодняя ёлка

пятніца 2

скрынка з падарункам

субота 3

чырвоны каўпак

нядзеля 4

чароўны мех

панядзелак 5

шкляны шар

аўторак 6

хваёвы вянок

серада 7

калядная зорка

чацвер 8

цацачны ліхтарык

пятніца 9

шакаладная цукерка

субота 10

колкая завея

нядзеля 11

дзеці карагодзяць

Надыходзіць натхняльны час крохкіх сняжынак і марозных карункаў, скрынак з падарункамі і гучных хлапушак, ласункаў і прысмакаў! Новы год – гэта заўсёды новыя спадзяванні, чаканні і, канечне ж, новыя веды!

І кампанія “Будзьма беларусамі!”, каардынатарам якой з’яўляецца Згуртаванне “Бацькаўшчына”, гатовая гэтымі ведамі дзяліцца. Ні дня без новага беларускага слова ў 2015 годзе дзякуючы насценнаму календару “Не маўчы па-беларуску!”.

Новы год з пазнавальным календаром ад “Будзьма!” – гэта 365 беларускіх словазлучэнняў у вясёлых малюнках мастачкі Дар’і Мандзік, аўтаркі ідэі праекта “Не маўчы па-беларуску!”. Дызайнерскае афармленне, як і саму ідэю календара, прапанаваў Анатоль Лазар (студыя “Адліга”). Кожны месяц прысвечаны пэўнай тэме, больш за тое, распрацоўшчыкі парупіліся, каб гэтай тэме адпавядалі і адметныя беларускія прымаўкі на кожнай старонцы календара. Ежа, вопратка, кветкі, жывёлы, вандроўкі і адпачынак – каляндар узбагаціць ваш слоўнікавы запас амаль ва ўсіх сферах жыцця!

Ідэя календара – Анатоль Лазар. Ідэя праекта “Не маўчы па-беларуску!” – Дар’я Мандзік.

Укладальнікі: Дар’я Мандзік, Анатоль Лазар, Уладзімір Лянкевіч, Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская.

Не маўчым разам па-беларуску ў 2015 годзе!

*Паводле budzma.by*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў снежні: **Радзіма Гарэцкага, Паўла Севярынца** (Беларусь), **Алену Чуяшкову** (Данія), **Кірыла Касцяна** (Чэхія). Зычым натхнення і плёну ў працы, дабрабыту і выдатнага здароўя, а таксама сонечных усмешак!

**15 снежня** 80-годдзе адзначае **Станіслаў Шушкевіч** (Беларусь). Ад усёй душы зычым яму радасці, гумору, сяброўскай падтрымкі і моцнага здароўя!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*



## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА СНЕЖАНЬ 2014 ГОДА

8 снежня – 100 гадоў таму ў в. Дзедзінка (цяпер Мёрскі р-н) нарадзіўся Часлаў Сіповіч (1914–1981), рэлігійны і грамадскі дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі.

10 снежня – Сусветны дзень Дэкларацыі правоў чалавека.

11 снежня – 10 гадоў таму памёр Кастусь Шышэя (псеўд. Арол; 1921–2004), дзеяч вызваленчага руху, сябар Беларускай Незалежніцкай Партыі, вязень савецкіх канцлагераў. Пахаваны на Спаса-Ефрасіннеўскіх могілках у Вільні.

13 снежня – 95 гадоў таму, у 1919-м, у Менску адбыўся сход Рады БНР, у выніку яе расколу былі ўтвораныя Найвышэйшая рада БНР (старшыня Язэп Лёсік) і Народная рада БНР (старшыня Пётр Крачэўскі).

16 снежня – 215 гадоў таму ў в. Мурагі (цяпер Расонскі р-н) нарадзіўся Ян Баршчэўскі (1799–1851), пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

18 снежня – 80 гадоў таму памёр Альбін Стаповіч (1894–1934), грамадска-культурны дзеяч, кампазітар, музычны педагог, публіцыст. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

20 снежня – 90 гадоў таму, у 1924-м, у Латвіі заснавана культурна-асветнае таварыства беларускай інтэлігенцыі “Беларуская хата“ (дзейнічала да 29 кастрычніка 1930 г.).

21 снежня – 45 гадоў таму памёр Аляксей Шудзейка (1913–1969), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

24 снежня – 110 гадоў таму ў в. Навасёлкі (цяпер Петрыкаўскі р-н) нарадзіўся Алесь Дудар (сапр. Дайлідовіч Аляксандр; 1904–1937), паэт, крытык.

25 снежня – Каляды (Божае Нараджэнне) паводле грыгарыянскага календара.

25 снежня – 95 гадоў таму ў в. Дзетамля (цяпер Навагрудскі р-н) нарадзіўся Кастусь Мярляк (1919–2007), грамадска-культурны-рэлігійны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Аргенціне і ЗША.

26 снежня – 25 гадоў таму, у 1989-м, на з'ездзе краязнаўцаў (доўжыўся 26–27 снежня) створана Беларускае краязнаўчае таварыства (БКТ).

29 снежня – 130 гадоў таму ў фальв. Люцынка (цяпер Малая Люцінка Валожынскага р-на) памёр Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (1808–1884), паэт, драматург, класік беларускай літаратуры. Пахаваны на могілках ва ўрочышчы Тупальшчына каля в. Падневічы, цяпер Валожынскі р-н.

**Беларусы ў свеце**
№11(151), лістапад 2014

Інфармацыйны бюлетэнь МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27